Выдаецца са сьнежня 1988 г.
Кошт 60 кап.

# НАВІНЫ

2'1991

Беларускага Народнага Фронту «АДРАДЖЭНЬНЕ»



С.5 Чарнобыль... Наперадзе новая катастрофа?

С.3 «Вярхоўны Савет БССР распусьціць народ»



С.6 «Адзін спалены будынак Ваяводзкага камітэту партыі страта народнае маёмасьці яўна недастатковая»

## Папраўка

У «Навінах» № 1'1991 здарылася прыкрая памылка. Фінансавая справаздача Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі павінна выглядаць наступным чынам:

| | Ангельскія фунты |
|---|---|
| **Прыбыткі:** | |
| Ахвяры | 32022,22 |
| Інш. прыбыткі | 83,00 |
| Разам | 32105,22 |
| **Выдаткі:** | |
| Закуп лекаў | 16040,43 |
| Іншыя выдаткі | 10,65 |
| Разам | 16051,08 |

Рэдакцыя прыносіць чытачам й а. Аляксандру Надсону прабачэньне.

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ – БЕЛАРУСКІМ РАБОЧЫМ: БОГ ВАМ У DАПАМОГУ!

**Горача вітаю рабочы кляс гораду Менску, які гэтак гераічна выяўляе сваю рабочую згуртаванасьць у дасягненьні агульнанародных мэтаў, у барацьбе за кавалак хлеба, дэмакратыю й галоснасьць.**

**Толькі Вашая бескампрамісная барацьба можа прывесьці да ўсенароднай перамогі над грабежніцкімі захадамі Цэнтру й мяйсцовае партбюракратыі.**

**Жадаю Вам непахіснай цьвёрдасьці й вялікай рашучасьці.**

**Бог Вам у дапамогу!**

**Жыве Беларусь!**

**Народны пісьменьнік,**
**Васіль Быкаў.**



Неадкладна распачаць выкананьне Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР. Прыпыніць выплаты з рэспубліканскага ў саюзны бюджэт, перадаць маёмасьць прадпрыемстваў саюзнага падпарадкаваньня ў рэспубліканскую ўласнасьць, забясьпечыць вайсковую службу прызыўнікоў зь Беларусі на тэрыторыі Рэспублікі. Не падпісваць саюзную дамову да прыняцьця Канстытуцыі сувэрэннае Беларускае рэспублікі.

Неадкладна ўвесьці прыватную ўласнасьць на зямлю ўсім, хто пажадае працаваць на ёй.

Неадкладна нацыяналізаваць маёмасьцьКПБ-КПСС, выкарыстоўваючы яе дзеля выкананьня праграмы перасяленьня пацярпелых ад Чарнобыльскае катастрофы, дзеля патрэбаў адукацыі й аховы здароўя. Неадкладна скасаваць усе прывілеі партыйна-дзяржаўнае намэнклятуры.

Дзеля выкананьня пералічаных вышэй патрабаваньняў неадкладна склікаць пазачарговую сэсію Вярхоўнага Савету БССР. У выпадку нязадольнасьці або нежаданьня Вярхоўнага Савету выканаць патрабаваньні, прыняць рашэньне пра ягоны самароспуск і новыя выбары на шматпартыйнай аснове.



# АЛЕСЬ АДАМОВІЧ:

## Калі беларусы ўзьняліся, яны маюць намер перамагчы

***Як далей будзе разьвівацца беларускі страйкавы рух? Ці чакае яго вялікі ўздым або зноў будзе спад? Ці сапраўды цярпеньню народа прыйшоў канец? Калі ўздым, ці ня стане ягоным фіналам жорсткая расправа? Гэтыя пытаньні хвалююць зараз усіх. Папулярны пісьменьнік, народны дэпутат СССР Алесь Адамовіч сказаў у тэлефонным інтэрвію "Навінам", што калі беларусы ўздымаюцца на справядлівую справу, яны заўсёды ідуць да канца.***

**"Навіны": Спадар Адамовіч, пасьля падзеяў 30 кастрычніка 1988 году Вы назвалі Беларусь "антыперабудоўчай Вандэяй". Гэты выраз абляцеў увесь сьвет. Як можна было-б назваць Беларусь пасьля красавіцкіх страйкаў 1991 году?**

**Алесь Адамовіч:** Па-першае, мушу ўдакладніць, я не называў тады ўсю Беларусь Вандэяй. Я меў на ўвазе тагачасных кіраўнікоў Беларусі – Паўлава й увесь ягоны партыйна-ідэялягічны клян, палітыка якога ў вачох краіны й усяго сьвету рабіла Рэспубліку антыперабудоўчай Вандэяй. Але ў тым-жа артыкуле было сказана: ёсьць народ, ёсьць людзі, якія сваім маршам у Курапаты сьцьвердзілі, што яны ня згодныя з роляй вандэйцаў. Пазьней тое самае кіраўніцтва, перакрыўляючы зьмест маіх словаў, зьярталася да самалюбства беларусаў: маўляў, Адамовіч назваў сваю Радзіму Вандэяй...

Цяпер перад усім сьветам беларусы зноў даказалі, што ўсе спробы ператварыць рэспубліку ў аплот рэакцыі, прымусіць людзей сьлепа выконваць загады ня толькі сваёй, але й цэнтральнай партакратыі апынуліся безвыніковымі.

**"Навіны": Як сёньня ставіцца да Беларусі дэмакратычная Масква?**

**А.А.:** З пачуцьцём захапленьня й віны за адмоўную рэакцыю на падзеі, зьвязаныя з ваяжом М.Гарбачова ў Рэспубліку. Многія разважалі тады так: гэтага ня можа быць, гэта немагчыма. Цяпер пануе ўздым і радасьць, што гэтае меркаваньне не было памылкаю.

**"Навіны": Як вядома, Прэзідыюм ВС БССР не задаволіў патрабаваньні забастоўшчыкаў. У гэтай сітуацыі менскі страйкам рэкамэндаваў заводзкім страйкамам прывесьці свае прадпрыемствы ў перадстрайкавы стан. Гэтае рашэньне было ратыфікаванае на канфэрэнцыях і сходах многіх працоўных калектываў. Палітычны страйк мяркуецца распачаць 23 красавіка.**

**А.А.:** Сёньня беларускія рабочыя адсунулі агульнасаюзныя палітычныя патрабаваньні на другі плян. Думаю, што гэта верны шлях. Нашыя забастоўшчыкі заявілі пра сваю салідарнасьць з саюзнымі патрабаваньнямі, але вельмі добра, што пасьля гэтага былі выстаўленыя свае, больш рэальныя патрабаваньні

Нерэальна, праводзіць рэгіянальны страйк, патрабуючы зьменаў у маштабах усяго СССР. Выстаўляючы-ж патрабаваньні да свайго ўраду, да кіраўніцтва КПБ, беларускі народ, рабочы рух рэальна могуць дасягнуць перамогі.

Чаго пажадаць? Гэта будзе нялёгкае змаганьне, асабліва, калі ўлічыць, што Беларусь – ракетная стартавая пляцоўка саюзнага вайскова-прамысловага комплексу. Беларусы павінны ўсьведамляць, што ім давядзецца сутыкнуцца зь вельмі актыўным супраціўам іх імкненьню да самастойнага й вольнага жыцьця. Моц гэтага супраціву непасрэдна зьвязаная з тымі дзесяткамі пускавых ракетных установак, якія ў нас пад нагамі. Вайскова- прамысловы, вайскова-партыйны комплекс да апошняга будзе змагацца за іх. Мы не павінны на гэта забывацца. У патрабаваньнях забастоўшчыкаў, прамовах народных дэпутатаў, нават выступах лідэраў Народнага Фронту гэтае галоўнае зло амаль ня ўзгадваецца. Зло ня толькі ў тым, што гэта дзесяткі магчымых Чарнобыляў, і ня толькі ў тым, што першы ўдар у па-ранейшаму магчымай ядзернай вайне прыйдзецца на Беларусь. Зло ў тым, што нам ані на мэтар, ані на сантымэтар не дадуць адыйсьці ад улады Цэнтру менавіта з-за таго, што ў нас стаяць гэтыя ракеты.

Адным з галоўных патрабаваньняў беларускага страйкавага руху павінна стаць наступнае: забірайце свае ракеты. Калі будзе выканана яно, лягчэй будзе дасягнуць выкананьня іншых. Калі яно ня будзе выканана – ня будзе нічога.

**"Навіны": Менскі страйкам невыпадкова наблізіў дату палітычнага страйку да гадавіны Чарнобыльскае катастрофы.**

**А.А.:** Чарнобыль яшчэ раз пацьвердзіў ісьціну: звыш 70 гадоў намі кіравала партыя, якую ўзначальвалі палітычныя злачынцы. Калі казаць аб'ектыўна, сярод іх былі й сьветлыя асобы, але заканамернасьць менавіта злачынная. Мы заўсёды мелі справу з палітычнымі гвалтаўнікамі й крымінальнікамі. Яны зноў выявілі сябе ў часе Чарнобыльскае катастрофы й ліквідацыі яе наступстваў. Народ мае маральнае права патрабаваць іхняе адстаўкі, яны не павінны займаць кіраўнічыя пасады пасьля таго, як уся краіна, увесь народ даведзеныя да такога становішча. Чарнобыль назаўсёды замацаваў у сьвядомасьці людзей разуменьне таго, хто намі кіраваў столькі год. Намі кіравалі злачынцы.

**"Навіны": Многія лічаць Вас знаўцам нацыянальнага характару. Як, на Вашую думку, будзе разьвівацца сітуацыя?**

**А.А.:** Угадаць тут вельмі цяжка, бо дзейнічаюць дзьве сілы. З аднаго боку, народны рух, з другога – ягоныя праціўнікі. Што-ж датычыцца беларусаў, дык трэба памятаць, што ў блізкім мінулым гэтая Рэспубліка – партызанка. Беларусы – цярплівая нацыя, але калі ўціск робіцца занадта моцны (а цяпер ён будзе такі, зважаючы на ракеты) яны ўздымаюцца на барацьбу за справядлівую справу. І калі ўжо беларусы ўзьняліся на гэтую барацьбу, значыць, яны маюць намер перамагчы. Бяз гэтага намеру яны маглі-б яшчэ чакаць. Калі-ж намер перамагчы нарадзіўся, умацаваўся, беларусы ідуць заўсёды да канца.

**Запісаў Алесь Суша.**

Зянон ПАЗЬНЯК
Лявон БАРШЧЭЎСКІ
Уладзімер ЗАБЛОЦКІ

# ШЛЯХ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Больш як два гады дэмакратычнае працы ў цяжкіх абставінах антынароднае камуністычнае рэакцыі спатрэбіліся на Беларусі, перш чым яе працоўны народ арганізавана паўстаў на змаганьне за свае правы, свабоду й незалежнасьць Бацькаўшчыны. Народ, зь якога маскоўскія камуністычныя "правіцелі" й мясцовыя партыйныя кіраўнікі хацелі зрабіць сьляпога самагубцу, падвопытную чарнобыльскую жывёлу, пешку ў палітыканскай гульні, – гэты народ сьведчыць пра сваё разуменьне, што ніякое паляпшэньне жыцьця, ніякія эканамічныя рэформы, ніякое выратаваньне ад вынікаў чарнобыльскае катастрофы немагчымае пакуль ня будзе сувэрэнітэту, свабоды й незалежнасьці Бацькаўшчыны, пакуль сам народ вольнае Беларусі ня стане распараджацца вынікамі свае працы, сваёй зямлёю, багацьцем і рэсурсамі, пакуль сам праз сваіх выбраных прадстаўнікоў ня стане кіраваць сваёй дзяржаваю. Гэта недасягальна, пакуль будзе існаваць савецкая партыйная імпэрыя й усеагульная манаполія КПСС. Але народ выяўляе арганізаванасьць і клопат пра будучыню свае зямлі.

На вялікі жаль, пра Беларусь, нават пра яе чарнобыльскую трагедыю амаль нічога ня ведаюць на Захадзе. Гэта кепска. Мы пазбаўленыя міжнароднае салідарнасьці й падтрымкі дэмакратычных краінаў. Камуністычныя начальнікі не пускалі інфармацыю на Захад, перашкаджалі дэмакратычным сувязям, дэзынфармавалі людзей.

На пачатку красавіка ў Злучаныя Штаты Амэрыкі й Канаду выехала нашая дэлегацыя ад парлямэнцкай фракцыі БНФ. Мэта паездкі – зламаць інфармацыйную блякаду вакол Беларусі, навязаць палітычныя кантакты зь дзяржаўнымі й грамадзкімі структурамі гэтых краінаў, дамагчыся падтрымкі дэмакратычных працэсаў, што адбываюцца ў нашай Рэспубліцы, і галоўнае – высьветліць магчымасьці выратаваньня беларускага народу ад чарнобыльскае радыяцыі, верагоднасьць заключэньня адпаведных эміграцыйных кантрактаў, пагадненьняў аб калектыўнай арэндзе зямлі ў Канадзе, аб магчымасьці стварэньня тут канадзка-беларускіх вытворча-тэхналягічных цэнтраў, аб часовым эміграцыйным статусе для беларускага насельніцтва, якое падвяргаецца на Беларусі радыяцыйнаму генацыду.

Страйкавыя падзеі на Беларусі сталіся нечаканасьцю для грамадзтва й палітычных колаў ЗША й Канады. Гэта вынік неінфармаванасьці заходняга сьвету пра дэмакратычны рух на Беларусі. Аднак цяпер становішча выпраўляецца. Голас беларускіх рабочых прагучаў на ўвесь сьвет і мы зьяўляемся сьведкамі таго, што яго чуюць.

Дзьверы Кангрэсу, Дзяржаўнага дэпартамэнту, грамадзкіх арганізацыяў ЗША, парлямэнту правінцыі Антарыё й мэтраполіі Таронта ў Канадзе былі адчыненыя перад намі, гэтак-жа, як і перад усімі іншымі людзьмі добрае волі, і ўсюды было выяўленае зацікаўленьне падзеямі на Беларусі. Сам беларускі народ разбурае вакол сябе змову маўчаньня, сам беларускі народ сьведчыць пра сваё змаганьне й кліча да салідарнасьці. Сам беларускі народ вызначыць ад якіх саюзаў або садружнасьцяў яму будзе больш карысьці.

Мы штодзённа падтрымліваем сувязь зь Менскам, абменьваемся інфармацыяй зь сябрамі БНФ, парлямэнцкай Апазіцыі Вярхоўнага Савету, Менскага страйкаму. Можна не сумнявацца, што Прэзідыюм Вярхоўнага Савету й урад пад кіраўніцтвам КПБ-КПСС пастараюцца рознымі спосабамі ашукаць страйкамы, падмануць народ, ня выканаць абяцаньняў. Хлусьні й ашуканству трэба супрацьдзейнічаць палітычнай працаю й арганізацыяй прадстаўнічых структураў, якія здольныя будуць у выпадку неабходнасьці правесьці адкліканьне дэпутатаў Вярхоўнага Савету й наладзіць нечарговыя дэмакратычныя выбары.

Беларусь ідзе сваім шляхам да свабоды й незалежнасьці. Гэта шлях вяртаньня ў Эўропу, шлях канструктыўны й цывілізаваны, які павінен забясьпечыць нам адзінства нацыі, еднасьць грамадзтва й адраджэньне культуры. Камуністам і гарбачоўскім палітыкам не ўдалося справакаваць у нас разбуральных сутыкненьняў, не ўдалося скампрамэнтаваць Народны Фронт і ўвесь дэмакратычны рух. Надыходзіць пара поўнага банкруцтва камуністычнае дыктатуры. Шлях, якім ідзе Беларусь да свабоды, павінен прывесьці да больш грунтоўнага ўсталяваньня сувэрэнітэту й дэмакратычнага грамадзтва, чым там дзе людзі разьядналіся, дзе страляюць, дзе сьпяшаюцца без пары. Людзі павінны перамагчы страх. Перад намі вольная будучыня Беларусі, за якую трэба сьмела й пасьлядоўна змагацца, дзеля якой трэба цярпліва й энэргічна працаваць.

20 красавіка 1991 г.
г. Таронта, Канада.

# КРОНІКА

**14 красавіка ў Менску адбылася арганізацыйнае паседжаньне па стварэньні рэспубліканскага страйкавага камітэту. Старшынём камітэту абраны сп. М. Собаль. 15 красавіка прынятае "Палажэньне аб страйкавым камітэце Беларусі", у якім вызначаныя мэты, структура, маёмасьць і грашовыя сродкі, умовы спыненьня дзейнасьці рэспубліканскага страйкаму.**

**Салігорск, 17 красавіка ў 0.00 гадзін была спыненая праца на 4 рудніках і ўзбагачальнай фабрыцы. Да страйку імкнуліся далучыцца яшчэ 3 руднікі. Колькасьць удзельнікаў палітычнага страйку – каля 4000 чалавек. На час перамоваў з урадам страйк вырашана не спыняць.**

**16 красавіка міліцыя затрымала й выслала з Салігорску двух прадстаўнікоў шахцёраў Данбасу, якія 17 красавіка меліся выступіць на рабочым мітынгу.**

**19 красавіка ў Савеце Міністраў БССР адбыўся брыфінг, прысьвечаны вынікам перамоваў страйкаму Рэспублікі з урадам. Прадстаўнікі абодвух бакоў паведамілі, што на перамовах па эканамічных пытаньнях у Савеце Міністраў БССР дасягнутыя пэўныя пагадненьні.**

**Разам з тым прадстаўнік рэспубліканскага страйкавага камітэту народны дэпутат БССР С. Антончык адзначыў: неканструктыўнасьць пазіцыі Вярхоўнага Савету БССР, яго нежаданьне прымаць палітычныя патрабаваньні рабочых вядзе да канфрантацыі.**

**Менск, 22 красавіка. Прадстаўнікі страйкавага камітэту С. Антончык, М. Собаль, Г. Мухін, Г. Быкаў атрымалі пісьмовае запрашэньне на размову да пракурора БССР Г. Тарнаўскага ў сувязі з заплянаваным на 23 красавіка рэспубліканскім палітычным страйкам.**

**23 красавіка пасьля безвыніковых перамоваў з урадам БССР рабочыя Беларусі ўзнавілі страйк. Гэтая акцыя носіць чыста палітычны характар, прычым цікава, што патрабаваньні забастоўшчыкаў спазналі пэўную эвалюцыю: акцэнт зроблены не на патрабаваньні да саюзнага ўраду , а на рэспубліканскі сувэрэнітэт. Рабочыя ішлі на мітынгі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі й лёзунгамі "Жыве Беларусь!" Геаграфія страйку істотна пашырылася: гарадзкія страйкавыя камітэты створаныя ў Менску, Магілёве, Бярэсьці, Слуцку, Жодзіне, Лідзе, Жлобіне, Маладэчне, Гомелі, Воршы. Працягваюць страйк, пачаты 17 красавіка шахцёры Салігорску. У Ратамцы – пасёлку з 5000-ым насельніцтвам – створаныя 8 страйкавых камітэтаў на прадпрыемствах і ва ўстановах. Працягваецца фармаваньне рэгіянальных страйкамаў.**

**Як паведаміў народны дэпутат БССР В. Голубеў, 23 красавіка адбылося сумеснае пасяджэньне Прэзідыюму ВС БССР з кіраўніцтвам КДБ, МУС і пракуратуры. Абмяркоўвалася цяперашняя палітычная сітуацыя ў Рэспубліцы.**

**24 красавіка ў Менску працягваўся палітычны страйк. На мітынгу, які адбыўся на пляцы Леніна, прадстаўнік страйкавага камітэту паведаміў, што цалкам або часткова ў горадзе баставалі 40 прадпрыемстваў. Адказнасьць за вынікі страйку ягоныя ўдзельнікі ўсклалі на ВС БССР. На вечаровым паседжаньні гарадзкі страйкам прыняў рашаньне аб працягу акцыі 25 красавіка.**

**А 15-ай гадзіне ў памяшканьні страйкаму была адключаная тэлефонная сувязь.**

**24 красавіка адбыўся Пленум ЦК ЛКСМБ. Было прынятае рашэньне аб стварэньні газэтна-выдавецкага канцэрну ЦК ЛКСМБ, кіраўніком якога прызначаны рэдактар тыднёвіку "Чырвоная зьмена" сп. У. Бельскі. Рэдактар "Знамя юности" сп. А. Класкоўскі на сваёй пасадзе не зацьверджаны.**

**Як паведаміў супрацоўнік ЦК ЛКСМБ У. Хлабардаў, прычынаю незацьвярджэньня сп. Класкоўскага на пасадзе рэдактара стала тое, што "Знамя юности" прысьвячала занадта мала ўвагі жыцьцю й праблемам ЛКСМБ.**

**26 красавіка, у 5-я ўгодкі катастрофы на ЧАЭС, у Менску мае адбыцца Чарнобыльскі Шлях. Удзельнікі шэсьця зьбіраюцца на пл. Волі а 16.00 гадзіне. Пасьля набажэнства калёна рушыць на пл. Бангалёр, дзе плянуецца правесьці мітынг- рэквіем і адкрыцьцё памятнага знаку ахвярам Чарнобылю.**

# 3–4 КРАСАВІКА

## «Жалезны поступ батальёнаў пралетарыяту»



**Страйкавы рух стыхійна распачаўся у Менску. Першымі спынілі працу рабочыя Электратэхнічнага заводу, якія перакрылі трамвайны рух па вул. Даўгабродзкай і зарганізавалі мітынг. Пазьней да іх далучыліся рабочыя заводаў аўтаматычных лініяў, шасьцерняў і большасьць цэхаў трактарнага. На сумесным мітынгу быў выбраны аргкамітэт гарадзкога страйкаму.**

**4 красавіка па Менску пракацілася хваля стварэньня заводзкіх страйкамаў.**

**Шматтысячныя калёны рабочых з усяго гораду рушылі на пляц перад Домам ураду пад лёзунгам "Рынкавым цэнам – рынкавыя заробкі". Побач з эканамічнымі на мітынгу былі вылучаныя палітычныя патрабаваньні. У прыватнасьці, рабочыя запатрабавалі дэпартызацыі ўсіх дзяржаўных структураў, роспуску ВС БССР, прыняцьця закону аб выбарах у БССР на шматпартыйнай аснове, правядзеньня новых выбараў да 30 ліпеня 1991 г. і інш. Па папярэдніх ацэнках, агульная колькасьць удзельнікаў страйку 50 – 100 тыс. чалавек. Для адказу на свае патрабаваньні рабочыя далі ўраду тыдзень. У Салігорску спыніліся 3-і й 4-ы руднікі ВА "Беларуськалій". Шахцёры вылучылі палітычныя патрабаваньні.**

Сапраўды, рабочая сіла ў спэцоўках, што рухалася 4 красавіка па Ленінскім праспэкце, рабіла моцнае ўражаньне. Такога Менск яшчэ ня бачыў, бо на вуліцы выйшлі людзі, якія дагэтуль у палітыцы ня ўдзельнічалі. Іх не ахапляла прага палітычнае дзейнасьці, яны хацелі нармальна працаваць, атрымліваць нармальны заробак, спакойна гадаваць дзяцей. Але само жыцьцё штурхнула іх у палітыку.

Падвышэньне цэнаў сталася тым пускавым мэханізмам, які ўзьняў гэтых людзей на барацьбу.

Страйкі пачаліся стыхійна. Хаця й БНФ і кампартыя й дырэктарскі корпус чакалі, што падвышэньне цэнаў можа выклікаць сацыяльны выбух, але ў вызначэньні маштабаў і тэрмінаў памыліся, бадай, усе.

Стыхійнасьцю тлумачыцца й няўзгоднены, нерэгулярны напачатку характар страйкаў – заводы далучаліся да страйку ў розны час, вылучалі розныя патрабаваньні. На гэтым спрабаваў згуляць урад, намесьнік старшыні СМ БССР Міхал Мясьніковіч, фармулюючы адмову весьці перамовы, сказаў: "Я ня ведаю з кім мне дамаўляцца, я атрымаў розныя патрабаваньні ад розных людзей".

Зьдзіўляе ня тое, што страйкі адбыліся стыхійна, але тое, як хутка яны перасталі быць такімі. Менскія рабочыя выявілі здольнасьць да хуткае самаарганізацыі. Прадстаўнікоў у гарадзкі страйкам абіралі на сходах ці канфэрэнцыях заводаў. Усе заводы, якія падтрымалі забастоўку, былі прадстаўленыя ў страйкаме, таму й давер да яго ў рабочых быў поўны.

Другая асаблівасьць рабочага руху, якая зараз, нібыта, зьнікае – скептычнае стаўленьне да інтэлігенцыі. Гэта вынік шматгадовае камуністычнае прапаганды, што сеяла варожасьць паміж рабочымі й інтэлігенцыяй. Адзін з удзельнікаў мітынгу на пляцы перад Домам ураду выкрыкваў: "Тут прыйшлі рабочыя, а не які-небудзь БНФ", "Няхай прамаўляюць толькі рабочыя". У гэтых выкрыках – недавер да палітыкаў і страх, што рабочых, якія толькі прачнуліся да грамадзянскага жыцьця, паспрабуюць выкарыстаць у сваіх мэтах. Але гэтая хвароба рабочага руху мінае даволі хутка. Па-першае, ідэялягічныя схемы самі па сабе, а жыцьцё само па сабе: зараз адсутнічае сацыяльны бар'ер, які падзяляе інтэлігенцыю й рабочых. Па-другое, у палітыкі ёсьць свая лёгіка, і пошук рабочымі саюзьнікаў непазьбежны. Невыпадкова страйкам стаў фармаваць камісіі экспэртаў. Страйкаму патрэбны прафэсійны інтэлект, а ўзаемная патрэба лепш за ўсё лечыць узаемную падазронасьць.

# 5 КРАСАВІКА

## Дэструктыўныя сілы або пра беларушчыну



**На сходзе прадстаўнікоў страйкамаў быў выбраны гарадзкі страйкавы камітэт. Яго сустаршынямі сталі Сяргей Антончык, Генадзь Быкаў і Георг Мухін. У Прэзідыюм Вярхоўнага Савету БССР і Саўмін Рэспублікі яны перадалі патрабаваньні, сфармуляваныя на мітынгу перад Домам ураду. На гэты дзень у горадзе заводзкія страйкамы былі створаныя на 42 прадпрыемствах. Да забастоўшчыкаў Салігорску далучыліся 1-ы і 2-і руднікі, шахтабудаўнічае ўпраўленьне й некалькі дапаможных вытворчасьцяў. Страйкавалі заводы Жодзіна, Фаніпалю, Магілёву, Бярэсьця, Гомелю, Лунінцу ды інш.**

**Увечары абяцаныя забастоўшчыкам штодзённыя 15 хвілінаў прамога эфіру на Беларускай тэлевізіі былі зьменшаныя да 5.**

Якую ролю ў красавіцкіх падзеях адыграў БНФ? Немалую. Па-першае, спрацавала двухгадовая дзейнасьць БНФ, мітынгі, выступы ў друку, праца апазіцыі ў ВС Рэспублікі. За гэты час БНФ так і ня стаў масавым рухам. Шырокія сацыяльныя пласты нібы й ня слухалі праграмы мераў па выхадзе з крызісу, заклікаў да стварэньня структураў уплыву, у тым ліку й страйкамаў. Як высьветлілася, ня слухалі, але нешта пачулі. І калі падыйшоў час, прыгадаліся й меры й прамовы й словы. Патрабаваньні страйкамаў падобныя на праграмныя мэты БНФ, на пляц перад Домам ураду рабочыя таксама пайшлі па шляху, пракладзеным БНФ.

Безумоўна, паўплывалі тут і шахцёрскія страйкі й прыклад суседзяў і агульныя зьмены варункаў у краіне й новыя ідэі й інфармацыя, што ідзе адусюль, але й роля БНФ была немалой. Апрача таго, БНФ паўплываў, так-бы мовіць, арганізацыйна. У 1988 годзе ён абудзіў да грамадзянскага жыцьця розных людзей, аб'яднаных непрыняцьцем таталітарызму. Групы падтрымкі БНФ маглі быць вельмі маленькімі – некалькі чалавек на велічэзны завод, але яны былі амаль паўсюдна. Людзі, што працавалі побач, ведалі гэта й ведалі іх. Калі-ж пачаліся страйкі, сябры БНФ апынуліся на сваім мейсцы. Многія зь іх увайшлі ў страйкамы, сталі іхнімі лідэрамі. Яны адразу надалі руху арганізаваныя формы. Палітычны досьвед сяброў БНФ на заводах дапамог рабочым у іхняй барацьбе.

Адсутнасьць у Менску ў гэтыя крытычныя дні лідэра Фронту й дэпутацкае апазіцыі ў ВС БССР сп. Зянона Пазьняка мае вельмі адмоўныя наступствы. Апазіцыя ў ВС БССР выглядае ў гэтыя дні крыху бездапаможна, нават да простае думкі пра збор подпісаў з патрабаваньнем склікаць пазачарговую сэсію яна прыйшла са значным спазьненьнем.

Мітынгі, нават страйкі, непасрэдна ня робяць палітыку, яны на яе ўплываюць, уплываюць на інстытуты публічнае ўлады, у якіх робіцца палітыка. Калі робіцца.

Доўгі час палітычнае становішча на Беларусі зводзілася да простае формулы: ёсьць КПБ і ёсьць БНФ. Красавік 1991-га гэтую расстаноўку сілаў зьмяніў. На авансцэну выйшаў шырокі рабочы рух, той самы масавы рух, якім ня стаў БНФ. Лідэры рабочага руху, хаця многія зь іх і зьвязаныя з БНФ, самастойна вызначаюць сваю палітыку. БНФ па большасьці прыкметаў – рух нацыянальна-дэмакратычны, рабочы рух – агульна-дэмакратычны.

Беларушчына, уласна кажучы, зараз і пачынаецца: і тое, як праходзілі страйкі, і ёсьць выяўленьне сучаснага нацыянальнага характару беларусаў. І калі палітычны працэс падняў уласна народ, уласна беларушчыну, ён і набыў свае ўнікальныя нацыянальныя рысы. Шлях Беларусі да волі стаўся непадобным на шляхі народаў Балтыі, нават Украіны, тут болей падабенства з польскай "Салідарнасьцю".

Пры гэтым можна гаварыць адно пра падабенства працэсаў, а ўвогуле беларусы выявілі падабенства толькі на саміх сябе. Хвала й пашана лепшым прадстаўнікам Беларускага Адраджэньня, якія ў гэтыя дні былі са сваім народам, з тым, які ён ёсьць.

Разважаючы палітычна, БНФ і рабочы рух пры ўсіх узаемных калізіях патрэбныя адзін аднаму. Іх аб'ядноўвае агульнае імкненьне да свабоды. Узаемаўплыў гэтых двух дэмакратычных рухаў дабратворна адаб'ецца на кожным зь іх, дапаможа ўдакладніць свае тактычныя й ідэйныя пазіцыі, аб'яднаць намаганьні.

# 9 КРАСАВІКА

## Папулізм! Шарыкавы! Быдла!



**13.00 у Менску распачаўся 2-гадзінны папераджальны "тэлевізійны страйк". Па ацэнках гарадзкога страйкаму не працавала каля 20 — 40 тыс. чал. Прадстаўнікі заводзкіх страйкавых камітэтаў выставілі пікет каля будынку рэспубліканскага тэлецэнтру. Ня глядзячы на гэта, магчымасьці выступіць у прамым эфіры забастоўшчыкі не атрымалі. У сувязі з адмовай ураду прытрымлівацца дасягнутага пагадненьня вечаровае паседжаньне гарадзкога страйкаму рэкамэндавала заводзкім страйкамам з 10 красавіка распачаць гарадзкі страйк.**

Абвінавачваньні рабочых у папулізьме можна было пачуць у гэтыя дні ад розных людзей. Казалі гэта й партапаратчыкі й дамы інтэлігентнага выгляду, цадзілі скрозь зубы "прагрэсіўныя" дэпутаты.

Безумоўна, не без папулізму. Рабочыя не рабілі падлікаў, колькі будзе каштаваць выкананьне іхніх эканамічных патрабаваньняў. Многія палітычныя патрабаваньні гучаць як: а пайшлі-б вы ўсе – і зьезд і Вярхоўныя Саветы і Прэзідэнт. На пытаньне, як практычна распусьціць ВС БССР, адзін з удзельнікаў мітынгу адказаў: "Яго распусьціць народ". У адказе – гонар за сваю нечаканую моц, але юрыдычна ён, мякка кажучы, вельмі слабы. Імкненьне часткі рабочых да простых рашэньняў будзе яшчэ доўга адчувацца й прынясе горкі плён.

Але зьвернем увагу на некаторыя маральныя аспэкты рабочага пратэсту. Страйкі й мітынгі прайшлі на рэдкасьць мірна, не была разьбітая ніводная шыба, ня кажучы ўжо пра галовы. Забастоўшчыкі адразу-ж вылучылі палітычныя патрабаваньні, адразу-ж усьвядомілі шчыльную сувязь паміж пустымі паліцамі й прынцыпамі арганізацыі камуністычнага грамадзтва. Яны пераканалі не пачынаць страйк работнікаў "хуткае дапамогі", чыгункі, харчовае прамысловасьці. Акрамя таго, 9 красавіка яны баставалі за чыстую ідэю – за свабоду слова, за прамы эфір для страйкаму. І баставалі цэлыя заводы.

Зусім не рабочы рух ёсьць крыніцаю папулізму. Бо хіба фінансаваньне сацыяльных праграмаў шляхам выкарыстаньня друкарскага станка ня ёсьць папулізмам? А амбітныя ваенныя праграмы й нікому не патрэбныя будоўлі стагодзьдзя ня ёсьць папулізмам? А нацкоўваньне людзей на каапэратывы? А апошняе адміністратыўнае падвышэньне цэнаў? Папулізм адкуль зыходзіў, адтуль і працягвае зыходзіць. І тое, што панства, якое праводзіць названыя меры, сытае, носіць гальштукі й мае вышэйшую адукацыю, сутнасьці справы не зьмяняе.

Сёньня папулізм – нашая агульная хвароба. Калі адукаваны дасьведчаны беларускі палітык сацыяль-дэмакратычнага гатунку кажа, што яго мэта – дасягненьне роўнасьці ў багацьці й выступае супроць прыярытэту прыватнае ўласнасьці, разумееш, што на папулізм хварэюць ня толькі рабочыя.

Ёсьць яшчэ адзін, чыста палітычны аспэкт тэмы. З патрабаваньнямі рабочых адбываліся пэўныя зьмены. У канчатковым тэксьце зьявіліся й круглы стол для ўсіх палітычных сілаў Рэспублікі й скліканьне пазачарговае сэсіі ВС БССР. Дарэчы, жорсткасьць эканамічных патрабаваньняў мае простае тлумачэньне – людзі ня вераць камуністычнаму ўраду, не ўважаюць яго за свой, народны, ня хочуць трываць і чакаць. Хаця ад іншага ўраду падобныя меры, мажліва, і ператрывалі-б. Трываюцьжа палякі жорсткія наступствы пляну Бальцаровіча, а любыя меры камуністаў выклікалі ў Польшчы хвалі страйкаў.

# 10–11 КРАСАВІКА

## Рабочы рух і авангард рабочае клясы



**10 красавіка ў Менску спынілі працу звыш 60 прадпрыемстваў. Заводзкія страйкамы былі створаныя на 82 прадпрыемствах. У Менску ў страйку удзельнічала звыш 150 тыс. чалавек, да рабочага руху пачалі стыхійна далучацца студэнты. Намесьнік Старшыні Вярхоўнага Савету БССР Станіслаў Шушкевіч даў забастоўшчыкам пісьмовыя гарантыі адносна прамога эфірнага часу на БТ.**

**У гэты дзень страйкавалі прадпрыемствы Барысаву, Маладэчна, Жодзіна й інш. Агульная колькасьць забастоўшчыкаў перавышала 200 тыс. чалавек.**

**У сувязі з адмовай ураду весьці перамовы Менскі страйкам рэкамэндаваў заводзкім страйкамам не перапыняць страйк 11 красавіка, а таксама прыступіць да падрыхтоўкі ўсебеларускага палітычнага страйку, кульмінацыйнымі патрабаваньнямі якога павінны стаць самароспуск Вярхоўнага Савету БССР, скліканьне круглага стала, утварэньне часовага кааліцыйнага ўраду народнага даверу. 11 красавіка прадстаўнікі Менскага страйкаму атрымалі ад Прэзідыюма Вярхоўнага Савету й ураду два пратаколы адносна іх гатоўнасьці весьці перамовы па палітычных і эканамічных пытаньнях.**

Страйкі наносяць па камунізьме ўдар неверагоднае моцы. Па-першае, з-за тыпу эканомікі. Па-другое, камуністы трапляюць у пастку свае ідэялёгіі. Рабочая кляса, паводле гэтае ідэялёгіі, – аснова й апора кампартыі.

Узгадайма, як рабочым калёнам, што ішлі да пляцу Леніна, была зялёная вуліца, які параўнальна стрыманы тон быў у партыйных газэтаў.

Разгубленасьць кампартыі працягвалася нядоўга. Была праведзеная папярэдне сплянаваная "праграма зьмякчэньня". Урад меў пэўны рэзэрв і зьбіраўся пусьціць яго ў ход (альбо не пусьціць) у залежнасьці ад сілы народнага абурэньня. У ідэялягічным пляне ўпарта паўтаралася тэма віны Масквы. У сваіх філіпіках супраць Цэнтру асобныя камуністычныя прамоўцы дасягнулі пафасу прамоўцаў з БНФ.

ЦК КПБ была распрацаваная стратэгія пранікненьня ў страйкамы на заводах і Менскі страйкам. Прычым зрабіць гэта была загадана любымі сродкамі, у тым ліку й цераз прафкамы. Цікава было назіраць, як жанчыны й мужчыны партыйнага выгляду гаварылі пра сваю падтрымку **ўсіх** патрабаваньняў рабочых уключна з нацыяналізацыяй маёмасьці КПСС. Але тут сур'ёзнай перашкодаю сталася пазіцыя Менскага страйкаму – аніякіх парткамаў і прафкамаў, выбары страйкавых камітэтаў на сходах і канфэрэнцыях.

Даволі хутка пайшлі ў ход і ідэялягічныя схемы, што будаваліся з трох узаемазьвязаных тэзісаў: а) эканамічныя патрабаваньні рабочых справядлівыя, палітычныя – навязаныя; в) палітычныя патрабаваньні навязаныя палітыкамі, як сваімі, гэтак і з-за межаў Рэспублікі; с) лідэры страйкаму – амбітныя цацкі ў руках палітыкаў, "дэструктыўных сілаў". Абвінавачваньні ў адрас дэмакратаў – ад БНФ да сп. Анатоля Сабчака – гучаць са стамляльнай зацятасьцю. Менскі страйкам спачатку не прызнаваўся ўвогуле, зараз мэтанакіравана зьбіраецца кампрамат на ягоных лідэраў. Аднак, і гэтыя меры, як выявілася, недастатковыя.

Палітычныя патрабаваньні ў рабочых узьніклі ў першыя-ж дні. На самой справе рабочы рух Беларусі не атрымліваў ні арганізацыйнае ні якое іншае дапамогі з-за межаў Рэспублікі (добра гэта ці кепска – асобнае пытаньне). 15 хвілінаў прамога эфіру істотна ўскладнілі ідэялягічную работу. А галоўнае – маштаб падзеяў апынуўся несувымерны з партыйнымі задумкамі.

Новая якасьць палітычнага працэсу зьявілася пасьля пазачарговага Пленуму ЦК КПБ, на якім кампартыя адкрыта абвясьціла вайну "антысацыялістычным" рабочым. Сам пленум прайшоў пад лёзунгам "Сацыялістычная Айчына ў небясьпецы!". Калі дзяржава гвалтуе сваіх грамадзянаў, яна заўсёды называе сябе Айчынай.

Гэтыя нататкі – папярэдняя спроба аналізу страйкавага руху на Беларусі. Становішча зьмяняецца хутка, ужо пасьпелі пачацца й скончыцца нічым перамовы Менскага страйкаму з уладамі. 23 красавіка страйкавы рух увайшоў у новую фазу.

**Юры Дракахруст.**

На здымку: будаўніцтва Чарнобыльскай АЭС (фота з архіву).










# ЗАНАДТА ВЯЛІКАЯ ЦАНА

Беларусь – Бэрніка, так, спалучыўшы фізічны тэрмін "бэр" і назву зьнішчанага фашыстамі гішпанскага гораду Герніка, беларускі навуковец Артур Ляўковіч назваў нашу зямлю. Гэты нэалягізм адпавядае трагічнаму стану нацыі, якая, на думку сп. Ляўковіча, асуджаная на выміраньне ва ўмовах узьдзеяньня малых дозаў радыяцыі.

26 красавіка Беларусь пачне адлік ужо 6-га году Чарнобыльскае трагедыі. Што зьмянілася за гэты час? Ці надзея нарэшце вернецца да беларусаў? Якія пэрспэктывы наперадзе? Гэтыя й іншыя пытаньні былі ў цэнтры ўвагі навукоўцаў зь Беларусі, Украіны, Нямеччыны, Ангельшчыны, Швэцыі, Іарданіі й Расеі, а таксама прадстаўнікоў грамадзкасьці Беларусі й Нямеччыны, якія 12-14 красавіка прыехалі ў Бэрлін для ўдзелу ў канфэрэнцыі па праблемах Чарнобылю "Занадта вялікая цана – пяць гадоў пасьля Чарнобылю". Ці ня ў Менску павінна была адбыцца гэтая імпрэза? Для тых, хто дагэтуль жыве ў зонах высокага забруджваньня, гэта, бадай, рытарычнае пытаньне.

70% радыяактыўных выкідаў з Чарнобылю прыпала на Беларусь. Забруджаныя радыянуклідамі 5 з 6 вобласьцяў Рэспублікі. Каля 40 тыс. квадратных кілямэтраў тэрыторыі Беларусі маюць узровень забруджанасьці цэзіем–137 вышэй за 1 Кюры/кв.км., больш за 17 тыс. кв.км. – звыш 5 Кюры/кв.км., больш за 7 тыс. кв.км. – ад 15 да 40 Кюры/кв.км. і каля 3 тыс. кв.км. – звыш 40 Кюры/кв.км. 27 гарадоў, 3142 вёскі, у якіх жыве больш за 2 мільёны чалавек, знаходзяцца на атручаных радыяцыяй землях. Рэспубліка згубіла каля 20% сельскагаспадарчых угодзьдзяў і амаль 20% лясоў.

Тым часам, у сьвеце мала ведаюць пра беларускі Чарнобыль. Як падкрэсьліў на канфэрэнцыі народны дэпутат Г.Грушавы, які толькі што вярнуўся з Канады, там атаесамляюць Чарнобыль выключна з Украінаю, маўляў, рэактар знаходзіцца на тэрыторыі гэтае рэспублікі. Кіруючыся прасталінейнай лёгікаю й фактам адмовы СССР ад прапанаванае сусьветнай супольнасьцю адразу пасьля катастрофы дапамогі, за акіянам не ўяўляюць плянэтарных маштабаў аварыі й памераў трагедыі, якая напаткала беларускі народ. Генадзь Грушавы падкрэсьліў, што пытаньне аб выратаваньні Беларусі для чалавецтва зьяўляецца выпрабаваньнем на гуманнасьць.

Гэтая-ж думка дамінавала ў прамове беларускага акадэміка Яўгена Канаплі, які сказаў: "Трэба давесьці да сьвядомасьці кожнага чалавека, што радыяцыя не бывае бясьпечнай для чалавека й усяго жывога нават пры самых малых дозах апраменьваньня. Досьвед Чарнобылю паказаў, што нават тыя дзяржавы, якія ня маюць ядзернае зброі, атамных лодак, атамных станцыяў пры сучасным узроўні разьвіцьця не застрахаваныя ад разбуральных наступстваў ядзерных катастрофаў. Беларусь ня мела на сваёй тэрыторыі ядзерных станцыяў! Гэта трэба ведаць і памятаць!"

Аналізуючы стан справаў на Беларусі, Яўген Канапля падкрэсьліў, што праблема ліквідацыі наступстваў катастрофы ў Рэспубліцы мае тры аспэкты: па-першае, трэба ў кароткі тэрмін адсяліць людзей з забруджаных зонаў; па-другое, стварыць нармалёвыя ўмовы жыцьця для перасяленцаў, бо ўжо сёньня 40% зь іх незадаволеныя перасяленьнем, а 10% гатовыя пакінуць Беларусь, толькі-б выратаваць дзяцей; па-трэйцяе, стаіць пытаньне аб лёсе ўсяго беларускага народу, бо прынятыя цяпер нормы забруджанасьці прадуктаў выводзяць усё насельніцтва Рэспублікі на максімальна дапушчальныя ўзроўні апраменьваньня арганізму. Прычыну расьцягваньня радыянуклідаў па ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Яўген Канапля бачыць у тым, што беларускі ўрад ад самага пачатку не прыслухаўся да думкі навукоўцаў АН БССР, бо ўжо ў 1986 годзе навука мела дастаткова дадзеных, каб прыняць рашэньне адразу. Аднак улады Рэспублікі перанесьлі праблему з навуковае сфэры ў сфэру палітыкі й эканомікі. Больш таго, канцэпцыя беларускіх навукоўцаў аб максімальна дапушчальным узроўні апраменьваньня 0,1 бэр за год, якая была прынятая з надзвычайнымі цяжкасьцямі, зноў падвяргаецца сумненьню. Цяпер праводзіцца экспэртыза Мінатамэнэрга з удзелам спэцыялістаў МАГАТЭ, звышзадачаю якой зьяўляецца навязваньне Беларусі максімальна дапушчальнага ўзроўню апраменьваньня 0,5 бэр за год, гэта значыць, вярнуць нас да сумнавядомае дозы 35 бэр за жыцьцё й такім чынам падвесьці законныя падставы пад затрыманьне людзей у радыяцыйна небясьпечных зонах, вытворчасьць там бруднае сельскагаспадарчае прадукцыі, якую будзе спажываць уся Рэспубліка. На думку акадэміка Яўгена Канаплі, вяртаньне да 35-бэрнае канцэпцыі робіцца даволі верагодным у сувязі з сур'ёзным пагаршэньнем эканамічнае сітуацыі ў СССР. Ён падкрэсьліў, што, каб гэтага ня здарылася, патрэбная вельмі моцная міжнародная падтрымка.

Як падкрэсьліў Яўген Канапля, калі-б урад БССР адразу прыняў канцэпцыю беларускіх навукоўцаў, праца па перасяленьні была-б ужо скончаная. Такім чынам, адказнасьць кладзецца на плечы палітыкаў, якім не хапіла сьмеласьці й грамадзянскага сумленьня, каб абараніць свой народ у габінэтах Крамля.

Што датачыцца дапамогі з Захаду, большасьць прамоўцаў прызнала высокую эфэктыўнасьць аздараўленьня чарнобыльскіх дзяцей за мяжою. Пасьля вакацыяў, праведзеных у заходніх краінах, у большасьці зь іх аднаўляюцца імунныя функцыі арганізму. Аднак асаблівасьць Чарнобыльскае катастрофы заключаецца ў тым, што яе ахвярам патрэбная сталая падтрымка на працягу ўсяго жыцьця. Таму поруч з часовымі акцыямі па аздараўленьні й перадачы лекаў і мэдычнае тэхнікі трэба думаць пра распрацоўку доўгатэрміновых міжнародных праграмаў па арганізацыі нацыянальнае сістэмы аздараўленьня й дыягностыкі. На канфэрэнцыі было адзначана, што Нямеччына ўжо працуе ў гэтым накірунку.

Імкнучыся зразумець стаўленьне Масквы да Беларусі, заходнія журналісты вельмі зацікавіліся пытаньнем, ці сапраўды была расстраляная радыяактыўная хмара, якая плыла ў напрамку Масквы, а ейныя радыяцыйныя ападкі трапілі на раёны Гомельскае й Магілёўскае вобласьцяў і нязначную частку заходніх раёнаў РСФСР. Акадэмік Яўген Канапля сказаў, што ў сувязі з гэтай інфармацыяй ён неаднаразова зьвяртаўся да прадстаўнікоў адпаведных ведамстваў у Маскве. Аднак на захады аб правядзеньні афіцыйнага расьсьледваньня адказу дагэтуль не атрымаў.

У сваю чаргу доктар Уладзімер Ціхі з Кіеву заявіў, што ён асабіста размаўляў з выканаўцамі загаду аб расстрэле хмары. Ён паведаміў, што для ажыцьцяўленьня гэтае акцыі з вайсковых самалётаў раскідаўся вугледыаксідны сьнег. Доктар Ціхі не сумняваецца, што расстрэл радыяцыйнае хмары меў мейсца.

Гэта-ж пацьвердзіла былы сябра заходненямецкага Бундэстагу ад партыі "Зялёных" Ліла Вольны, якая сказала, што на перамовах у Маскве Міністэрства гідралёгіі прызнала факт штучнага асаджваньня радыяцыйнае хмары. Пратакол гэтага паседжаньня павінен быць перададзены акадэміку Яўгену Канаплю.

Не прамінула й пагроза паўторнае катастрофы. У саркафагу, які быў узьведзены вакол 4-га энэргаблёку, і дзе знаходзіцца вялізная маса радыяактыўных элемэнтаў: плютонію, урану, стронцыю, цэзію, утварыліся расколіны. Паводле сьведчаньня кіраўніка тэхнічнага абслугоўваньня станцыі сп. Вячаслава Грузьдзева, бэтонны дах саркафагу вагою ў 1100 т пахіснуўся на 15° да вэртыкалі рэактарных рэштkаў. Працэс спаўзаньня даху працягваецца.

Сп. Юрый Бузуноў, навуковец з Маскоўскага істытуту імя Курчатава, сказаў на мінулым тыдні ў Лёндане, што вакол старога саркафагу неабходна ўзьвесьці новы й заліць рэактарныя пакоі бэтонам. Але гэта таксама кароткатэрміновае выйсьце. На думку многіх навукоўцаў, бязь дзейснае дапамогі Захаду праз 5 – 7 гадоў у Чарнобылі можа адбыцца новая катастрофа, яшчэ больш жахлівая, чым у 1986 годзе.

Пяць год пасьля Чарнобылю паказалі, што Беларусь была ня толькі пакінутая Саюзам на волю лёсу, але, уцягнутая ў нібыта навуковыя спрэчкі палітычнага характару, страціла шмат часу й магчымасьцяў для выратаваньня нацыі. Калі гаварыць пра зьмены ў радыялягічнай сітуацыі, то, як падкрэсьліў акадэмік Яўген Канапля, яны заключаюцца пераважанна ў дасягненьні больш жорсткага рэжыму кантролю.

**Ірына Лазоўская.**
**Бэрлін – Мюнхен.**

# ХТО ЁСЦЬ ХТО у беларускім рабочым руху?

## СЯРГЕЙ АНТОНЧЫК



*"Хачу, каб усё ў нас адбылося спакойна й мірна, каб не было ахвяраў. Рэжым здольны на ўсё. Таму мы мусім быць моцнымі. Чым мацнейшымі мы зробімся, тым меншай будзе верагоднасьць трагічных падзеяў".*

Нарадзіўся ў 1956 у мястэчку Плешчаніцы Лагойскага раёну Менскае вобласьці. Беларус. Беспартыйны. Дэпутат Вярхоўнага Савету БССР. Адукацыя сярэдняя (скончыў плешчаніцкую СШ №1, 1974). У 1974 – 76 служыў у войску. Да вайсковае службы й кароткі час пасьля яе працаваў лесасекам у комплекснай брыгадзе. З 1977 працуе на менскім заводзе імя Леніна – гальванік, апаратчык хімводаачысткі. З 1988 удзельнічае ў руху Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", на 2-м Зьезьдзе БНФ (сакавік 1991) быў выбраны ў склад Сойму. Адзін са стваральнікаў Рабочага Саюзу (з1989). Жанаты, трое дзяцей (12, 12 і 13 год).

## ГЕНАДЗЬ БЫКАЎ



*"Рабочыя зразумелі, што іх не абароняць ані КПСС ані афіцыйныя прафсаюзы – арганізацыі, якія страцілі народны давер. Людзям даводзіцца бараніць сябе самім".*

Нарадзіўся ў 1957 на чыгуначнай станцыі Крулеўшчызна Докшыцкага раёну Віцебскае вобласьці. Беларус. Беспартыйны (у 1983 – 90 у складзе КПСС, выйшаў з партыі па ўласным жаданьні). Крулеўшчызьненскую СШ скончыў у 1974. Працаваў. У 1976 – 78 на вайсковай службе. Адукацыя вышэйшая (завочна скончыў гістарычны факультэт БДУ, 1987). З 1987 працуе на менскім заводзе аўтаматычных ліній – шліфоўшчык. З 1988 удзельнічае ў руху Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Удзельнік Устаноўчага зьезду БНФ, сябра Рады БНФ Партызанскага раёну г. Менску. Адзін са стваральнікаў Рабочага Саюзу Беларусі (з 1989). Жанаты, двое дзяцей (11 і 12 год).

## ГЕОРГ МУХІН



*"Калі ў 1988 годзе на Маскоўскіх могілках людзей разагналі газам, я падумаў: час вызначыць сваё месца ў жыцьці. Ужо ў жніўні наступнага году я прымаў удзел у стварэньні Рабочага Саюзу Беларусі".*

Нарадзіўся ў 1949 у Чэмбурлінскім раёне Кемераўскае вобласьці ў сям'і вайскоўца. Расеец. Беспартыйны. Адукацыя сярэднетэхнічная. Скончыў агульнаадукацыйную школу (1968) і Гарадзенскі хіміка-тэхналягічны тэхнікум. У 1970 – 72 – служыў у войску. У 1972 – 80 працаваў на менскім заводзе імя Кастрычніцкае рэвалюцыі – токарам, наладчыкам станкоў зь лічбавым праграмным кіраваньнем. З 1980 працуе на менскім заводзе "Электронмаш" – наладчык станкоў з ЛПК. У руху Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" удзельнічае з 1988, давераная асоба народнага дэпутата СССР Мікалая Ігнатовіча. На Устаноўчым зьезьдзе БНФ выбраны ў склад Сойму (чэрвень 1989), сябра Ўправы БНФ. Адзін са стваральнікаў Рабочага Саюзу Беларусі (з 1989). Жанаты, двое дзяцей (10 і 13 год).

## ІВАН ЮРГЕВІЧ



*"Рабочы рух – рэакцыя абуджанага народу на камуністычны рэжым. Толькі пад націскам масавага рабочага руху можа быць створаны ўрад, які сапраўды будзе прадстаўляць народ і абараняць яго інтарэсы".*

Нарадзіўся ў 1943 у вёсцы Целешы Докшыцкага раёну Віцебскае вобласьці. Беларус. Беспартыйны. Скончыў 7 клясаў агульнаадукацыйнае школы (1957). З 1960 працаваў у лесагаспадарцы Пячорскага раёну Комі АССР, вучыўся ў горна-прамысловай вучэльні ў Варкуце. З 1963 працаваў на Варкуцінскіх шахтах, электрасьлесар. У 1964 – 67 служыў у войску. Пасьля звальненьня з войска працаваў на варкуцінскіх шахтах. У 1973 – 76 працаваў на Нарыльскім мэталюргічным камбінаце, рабочы. З 1976 – у Салігорску. Працуе ў ВА "Беларуськалій", машыніст горна-выемачных машын. Сябра рады працоўнага калектыву аб'яднаньня. У руху Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" удзельнічае з 1988. Сябра Салігорскае гарадзкое Рады БНФ. Сустаршыня страйкаму 4-га рудаўпраўленьня. Жанаты, сыну 28 год.

## AD РЭDАКЦЫІІ

У мінулым нумары мы распавялі пра першы этап рэгістрацыі "Навінаў БНФ "Адраджэньне". Практычны досьвед нашае рэдакцыі можа быць цікавы для іншых незалежных выдаўцоў.

Рэгіструючы газэту ў Дзяржкамдруку, мы даволі хутка зразумелі, што савецкія заканадаўцы стварылі яшчэ адзін "мёртвы" закон. У функцыі дзяржаўных органаў уваходзіць выключна фіксацыя новых выданьняў, што дае Дзяржкамдруку "маральнае права" зьбіраць па 2000 рублёў за разгляд заявы. Такім чынам, тым, хто мае намер пачаць выпуск свае газэты, з самага пачатку варта арыентавацца на свае сілы й, безумоўна, грунтоўна падумаць.

Выдадзенае Дзяржкамдрукам рэгістрацыйнае пасьведчаньне ня робіць рэдакцыю юрыдычнай асобаю, а зьяўляецца чымсьці накшталт ліцэнзіі на права выдаваць пэрыядычнае выданьне. Таму, зарэгістраваўшы газэту як сродак масавае інфармацыі, мы мусілі асобна рэгістраваць рэдакцыю як прадпрыемства. Вось гэты, другі этап легалізацыі газэты, быў зьвязаны з найбольшымі цяжкасьцямі.

Найперш давялося сутыкнуцца з праблемаю юрыдычнага адрасу, якая зьяўляецца асноўнай пры рэгістрацыі любога прадпрыемства. Спэцыфіка дзейнасьці дазваліла-б пачаць працу на прыватнай кватэры, але існае заканадаўства такога рашэньня не дапушчае. Няма прэцэдэнтаў афармленьня юрыдычнага адрасу й на кватэру, што знаходзіцца ва ўласнасьці грамадзяніна, гэта магчыма тэарытычна, але вымагае працяглае працэдуры й, цалкам верагодна, судовага разбору.

Такім чынам, супрацоўнікі менскіх райвыканкамаў давалі "Навінам БНФ" катэгарычную адмову, маўляў, у раёне няма вольных плошчаў для размяшчэньня вашае фірмы.

Але, калі ўжо мала хто спадзяваўся на посьпех, Ленінскі савет, апярэдзіўшы прыняцьце закону пра мяйсцовае самакіраваньне прыняў рашэньне пра аб'яднаньне Прэзідыюму райсавету з райвыканкамам, што й дазволіла выканаўчаму воргану стаць больш самастойным. Так, у выпадку з "Навінамі БНФ" ён кіраваўся здаровым сэнсам, разважаючы, што ў цывілізаваным грамадзтве прэса розных палітычных арганізацыяў павінна мець хаця-б адносна роўныя магчымасьці.

Безумоўна, гэта толькі нязначная частка складанасьцяў, якія паўстаюць перад новымі газэтамі. Асновы выдавецкае дзейнасьці – папера, друкарня й распаўсюднікі – новыя перашкоды ў справе. Вось адкуль бяруцца параўнальна высокія цэны на незалежную прэсу. "Саюздрук" як манапаліст, натуральна, дыктуе ўмовы пагадненьняў, паводле якіх, як правіла, страты ад нерэалізаванае прадукцыі цалкам нясуць газэты. Непасрэдныя-ж прадаўцы ня маюць стымулу да рэалізацыі. Цяжкасьці з папераю й высокія каштарысы перасылкі пакуль не дазваляюць разгарнуць падпіску на газэту. Зараз нельга сказаць, ці зможа газэта забясьпечыць рытмічны выпуск.

Магчыма, чытача зацікавяць прыкладныя выдаткі на адзін нумар пэрыядычнага выданьня накладам 30000 асобнікаў коштам 50 капеек:

папера – 3-6 тыс. рублёў;
друкарня – 10-25% ад кошту накладу;
рэалізацыя – 20-31,6% ад кошту накладу;
экспэдыцыя – да 20% ад кошту накладу;
транспартныя выдаткі – 150-300 рублёў.

Чытач можа пераканацца, што высокая цана мае аб'ектыўныя падставы.

Востра паўстае пытаньне пра стварэньне ўласных сістэмаў распаўсюду, і менавіта ў гэтым накірунку мажлівае супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых газэтаў. Мяркуем, што аб'яднаньне незалежных выдаўцоў магло-б мець шанцы й на вырашэньне пытаньня з папераю й друкарнямі на дзяржаўным узроўні. Адным словам, "Навіны" запрашаюць усіх, хто зацікавіўся гэтай ідэяй, да супрацоўніцтва.



Рэдакцыя "Навінаў БНФ" запрашае ахвотных распаўсюджваць газэту зьвяртацца па тэлефонах: 49-05-36 (Аляксандр); 27-06-04 (рэдакцыя).

НАВІНЫ Беларускага Народнага Фронту "АДРАДЖЭНЬНЕ"

Нумар падрыхтавалі: Алена Вашчанка, Кастусь Вашчанка, Кастусь Войтка, Алена Галаўчак, Павел Данейка, Юры Дракахруст, Аляксандр Лазоўскі, Ірына Лазоўская, Уладзімер Панада, Юры Рагуля, Алесь Суша(рэдактар), Валеры Сядоў, Павел Тушынскі.
Заснавальнік Зянон Пазьняк. Ліцэнзія №67. Меркаваньне аўтараў публікаваных матар'ялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі й кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й ня вяртае.
Адрас: 220050, Менск, вул. К. Маркса, 25–79. Тэл. 27-06-04.

Типография. г. Орша, ул. Минская, 3, Сп. печати офсетный. Объем 2 п. л. Тираж 20 тыс. Заказ №2133.